


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 10 (289) ЧЭРВЕНЬ 2020 ГОДА


БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ

**Кожны любіць цешыцца уладай, нават уладар малой пасады**

*Пімен Панчанка*

КАМПАНІЯ 2020

# НА ЎСЮ БЕЛАРУСЬ – ШЭСЦЬ ЧЛЕНАЎ КАМІСІЙ

**З шасці ўключаных прадстаўнікоў апазіцыйных партый па Беларусі два ўвайшлі ва ўчастковыя камісіі Гарадка.**

Прадстаўнікоў апазіцыйных партый ва ўчастковых камісіях зараз у пяць разоў меней, чым на выбарах 2015 году: калі тады было 30 прадстаўнікоў, то ў 2020 годзе толькі ШЭСЬЦЬ на ўсю Беларусь. 24 чэрвеня скончылася фармаваньне ўчастковых выбарчых камісій, якія непасрэдна арганізуюць галасаваньне і падлічваюць галасы. Усяго створана 5723 камісій, у іх склад увайшло 63 347 чалавек.

Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» ў складзе экспэртаў Беларускага Хэльсынскага камітэту і праваабарончага цэнтру «Вясна» апублікавала аналітычную справаздачу аб назіраньні за фармаваньнем участковых выбарчых камісій (УВК).

Адзначаецца, што ў сувязі з эпідэміяй COVID-19 пагоршыліся ўмовы для назіраньня за фармаваньнем УВК, бо пастанова ЦВК ад 8 траўня не прадугледзела прысутнасьці на паседжаньнях прадстаўнікоў грамадзкіх аб'яднаньняў, як гэта было на папярэдніх выбарах. Некаторым назіральнікам адмовілі без аб'ектыўнага абгрунтаваньня.

У палове выпадкаў, калі паседжаньні органаў па фармаваньні УВК праходзілі онлайн, прадстаўнікі кампаніі мелі цяжкасьці ў назіраньні праз кепскую якасьць трансьляцый, або наогул ня мелі такой магчымасьці, бо трансьляцыі не было. Часам замест онлайн-трансьляцыі выстаўляўся відэазапіс.

Паводле назіральнікаў, пры фармаваньні камісій быў відавочны дыскрымінацыйны падыход выканкамаў да прадстаўнікоў апазыцыйных партый: з 545 вылучаных у склад УВК увайшлі 6 чалавек (1,1%), у той час як з 3844, вылучаных праўрадавымі партыямі, у склад камісій увайшлі 3717 чалавек (96,7%).

У камісіі ўключаныя амаль усе прадстаўнікі, вылучаныя пяцьцю праўладнымі арганізацыямі: БРСМ, «Белай Русьсю», Саюзам жанчын, Саюзам вэтэранаў, Фэдэрацыяй прафсаюзаў Беларусі (96,9% ад вылучаных).

Агульная колькасьць прадстаўнікоў апазыцыйных партый у камісіях склала 6 чалавек, або 0,009% ад агульнага складу чальцоў УВК, што ў пяць разоў меней, чым на папярэдніх прэзыдэнцкіх выбарах 2015 году.

Адсутнасьць у выбарчым заканадаўстве гарантый уключэньня ў склад выбарчых камісій прадстаўнікоў, вылучаных усімі палітычнымі суб'ектамі, як і раней, робіць магчымым адвольны і дыскрымінацыйны падыход у дачыненьні да апазыцыйных партый і рухаў.

У гэтай сувязі нечаканай выглядае сітуацыя ў Гарадоцкім раёне, дзе з чатырох вылучаных прадстаўнікоў ад Віцебскага камітэта БСДП(Грамада) два прадстаўніка Алёна Дзейнека і Таццяна Гаравая, сябры БСДП, ўключаны ва ўчастковыя камісіі: Баграмянаўскую і Гагарынскую адпаведна. Яшчэ адзін прадстаўнік ад БСДП – Аляксандр Шчамлёў уключаны ва ўчастковую камісію, якая размяшчаецца ў аграгарадку Амбросавічы Шумілінскага раёна. Усяго абласны камітэт БСДП вылучыў ва ўчастковыя камісіі па вобласці – 19 сваіх прадстаўнікоў. Гэта мусіць "лепшы" вынік у краіне сярод апазіцыйных структур.

**Л. Антонаў**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

ЭКАЛОГІЯ

# ЗНІК СТВОРАНЫ ВАДАЁМ У ВАРХАХ

**У чацвер 18 чэрвеня, пасля моцнай залевы ў аўторак, у Вархах рэчка Каменка прарвала дамбу і вынесла свае воды з вархоўскага вадаёма ў Гаражанку і сетку гарадоцкіх азёр.**

Жыхары Гарадка на трэцція суткі пасля моцнай аўторкавай залевы назіралі выхад з берагоў рэчкі Усыса, якая ў цячэнні па Гарадку называецца Гаражанка. Чаму праз двое сутак гэта здарылася было не зразумела і мне. Але сёння даведаўся пра прычыну гэтай з'явы ў Гарадку.

За 15 кіламетраў ад Гарадка 18 чэрвеня была прарвана дамба на плаціне, якая ўтварала штучны вадаём у в. Вархі яшчэ з пачатку 90-х гадоў.

Зараз гэты вадаём, які быў прыцягальным не адно дзесяціголдзе для адпачынку жыхароў аграгарадка Вархі, ператварыўся ў балота па якому Каменка выбірае новы шлях.

Пры гэтым экасістэме вадаёма і Вархоў нанесена вялікая шкода: зніклі розныя віды рыб, якія тут вадзіліся, зніклі сямейкі баброў, якім быў да спадобы вадаём. А таксама ўжо не вернуцца ні лебедзі, ні качкі, якія тут былі.

Не вернуцца, калі не аднаўляць дамбу.

Так выглядае пабураная плаціна ў Вархах. Воды р. Каменка прарвалі левы бок дамбы і панеслі бетонныя пліты далей.

Для гарадоцкіх чыноўнікаў самых вялікай праблемай з'яўляецца тое, што гэты пажарны вадаём, аказваецца, нідзе не быў зарэгістраваны або дакументы на яго зніклі. Спрвва ў тым, што вадаем будаваўся напачатку 90-х гадоў па ініцыятыве старшыні калгаса імя Маякоўскага М.М. Дзергачова, мeў праектную дакументацыю. Да гэтага экалагічнага аб'екта ў Вархах меў дачыненне і першы міністр экалогіі незалежнай Беларусі А.М. Дарафеяў, наш вядомы зямляк.

На беразе гэтага вадаёма старшыня М.М. Дзергачоў і пабудаваў дом. І па сёння яго дачка ўсе гэтыя гады плаціла дадатковы падатак за знаходжанне дома ў водаахоўнай зоне. А зараз аказваецца: вадаёма афіцыйна і не было. Пытанне рытарычнае: а за што плаціліся дадатковыя грошы?

Больш дакладны адказ мусяць даць прыродаахоўныя арганізацыі. Відавочна — экалогія Вархоў значна пацярпела, як і прырода малой Радзімы некалькіх пакаленняў вархоўцаў. Дамба, мяркую, пры невялікіх затратах можа быць адноўлена і адновіцца экасістэма аграгарадка.

Пытанне тут часу. Бо чым хутчэй адновяць дамбу, тым хутчэй адновіцца і экасістэма ў Вархах, якая склалася больш чвэрць стагоддзя назад.

**Леанід Гаравы**

АУКЦЫЁН

# КОМПЛЕКС ЗДАНИЙ ПРОДАЛИ УСПЕШНО

**Комплекс зданий ликвидированного хозяйства в Городокском районе продали на аукционе за Br127 тыс.**

Сельхозпредприятие «Северный» Городокского района выкупило расположенное по соседству имущество ликвидированного хозяйства на аукционе комитета «Витебскоблимущество» за Br127 тыс., при этом цена продажи превысила начальную более чем в 310 раз, передает корреспондент БЕЛТА.

Комплекс зданий бывшего ОАО «Городокский райагропромснаб» в деревне Большие Стайки выставлялся на торги впервые с установлением начальной цены 15 базовых величин (Br405). Интерес к лоту проявили два участника, а победитель определился на 57-м шаге аукциониста. Им стало местное СУП «Северный», которое входит в агро-промышленное объеди-нение на базе ОАО «Витебский мясокомбинат». По словам директора «Северного» Вадима Проневича, недвижимость планируется использовать под фермы для выращивания быков, что позволит предприятию увеличить поголовье крупного рогатого скота. Первые 100 бычков на новой площадке появятся примерно через месяц, а всего на этой базе предполагается содержать около 1,2 тыс. голов КРС. Проблем с обеспечением кормами животных не будет, так как угодья вокруг комплекса находятся на балансе СУП «Северный».

В состав лота включено 14 зданий и сооружений различного назначения общей площадью более 18 тыс. кв.м, в том числе шесть телятников и животноводческих помещений, два склада, кормоцех, дом животновода, пожарное депо, а также право 50-летней аренды двух земельных участков площадью свыше 6,7 га. Новому собственнику предстоит в числе прочего зарегистрировать объекты в Едином государственном регистре недвижимого имущества. Вырученные на аукционе средства пополнят бюджет Городокского района.

Также по результатам торгов комитета «Витебскоблимущество» будут вовлечены в оборот еще три неиспользуемых объекта. Житель Минска приобрел за Br85 здания бывшей школы с мастерской и хозпостройками общей площадью свыше 500 кв.м в деревне Запрудье Глубокского района. По словам нового собственника, на базе учреждения образования планируется создать объект агроэкотуризма. Еще одну бывшую школу в деревне Карасино Браславского района также за Br85 выкупил местный житель для создания базы отдыха. По данным комитета «Витебскоблимущество», с начала года комитет организовал более полусотни результативных аукционов, что позволило пополнить бюджет на сумму свыше Br1,3 млн.

**Инфо тут: www.belta.by**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

COVID-19

# В ЛИДЕРАХ ПО КАРОНОВИРУСУ

**Свыше двухсот человек уже заразились коронавирусом в Городокском районе, снова выросло количество активных случаев.**

По состоянию на 19 июня в Городокском районе с начала эпидемии было зарегистрировано 203 случая заражения коронавирусом.

За неделю в этом регионе выявили 26 новых случаев, тогда как за предыдущие 7 дней — только 12. Уровень заболеваемости вернулся к показателям позапрошлой недели, когда заразились 25 человек.

К этому момент по данным райисполкома успели вылечить 136 пациентов, если не было смертей, то в районе сейчас 67 активных случаев COVID-19, что на 31,4% больше, чем на предыдущей неделе.

В Беларуси на 19 июня зафиксировано 57 333 случая заражения коронавирусом. Выздоровели к этому времени 35 275 пациентов, умерли 337 человек, сообщает Минздрав.

При этом ВОЗ заявила о новой опасной фазе пандемии COVID-19, за предыдущие сутки в мире было зарегистрировано 150 000 новых заражений, что является самым высоким суточным показателем с начала распространения коронавируса.

***От редакции.*** *Сохранение роста заражения COVID-19 требует от граждан соблюдения масочного режима и социального дистанцирования в 1,5 - 2 м. Что повсеместно в Городке нарушается.*

**Сяржук Серабро**
**news.vitebsk.cc**

КРЫМІНАЛ

# УКРАЛ И ПРОДАЛ ЛОДКУ

**В Городокском районе неработающий местный житель украл и продал чужую лодку знакомого витебчанина.**

Будучи большим любителем рыбалки, пенсионер из Витебска приобрел себе лодку, зарегистрировал её и стал наслаждаться своим увлечением.

До поздней осени мужчина регулярно приезжал на дачу и выходил на лодке на гладь местного озера. Когда температура воздуха стала стремиться к нулю, он вытащил своё имущество на берег, пристегнул к дереву и отправился в город. Не будучи любителем зимних посиделок с удочкой он не наведывался в свои владения до весны. Когда же пенсионер весной вернулся на дачу и захотел порыбачить, то обнаружил на берегу озера лодку точь-в-точь похожую на свою, но уже с другим бортовым номером и без весел.

Проведя собственное небольшое расследование, мужчина узнал, что кто-то в деревне слышал о продаже лодки в начале весны. Не уповая более на свои детективные силы, витебчанин обратился в милицию. Оперативники Городокского РОВД быстро отследилисудьбуукраденного имущества. Выяснилось, что действительно, лодка, обнаруженная пенсионером на берегу, принадлежит ему. Вот только, её новый хозяин рассказал, что купил судно и весла за 150 рублей у местного жителя примерно два месяца назад. Более того, он даже успел зарегистрировать лодку в соответствующей инстанции.

Вскоре нашелся и продавец чужого имущества. Им оказался безработный местный житель хорошо знакомый потерпевшему. Оказалось, что подозреваемый еще осенью обращался с просьбой пользоваться лодкой в отсутствии хозяина. Добрый пенсионер не отказал, но и подумать не мог, что сосед продаст её, когда ему не будет хватать на выпивку.

Лодка возвращена законному владельцу. В отношении же похитителя следователями возбуждено уголовное дело.

**Л. Антонов**

КУЛЬТУРА

# ПЕРШАЯ АРТ-СУСТРЭЧА Ў ПАРКУ

**У Гарадку адбылася першая арт-сустрэча «На крылах натхнення» з шанаваннем паэмы «Тарас на Парнасе».**

Арт-сустрэча пад такой мілагучнай назвай «На крылах натхнення» адбылася 5 чэрвеня ў Гарадку ў дзіцячым парку за Домам культуры.

Сённяшняя эпідэміялагічная сітуацыя, безумоўна, паўплывала на штодзённы ўклад нашага жыцця, у тым ліку і сацыяльнага. Аднак мерапрыемства, якое адбылося ў мінулую пятніцу, дапамагло жыхарам нашага горада і раёна выйсці са стану, так бы мовіць, анабіёзу і атрымаць асалоду ад нумароў таленавітых артыстаў, назапасіць шмат новых уражанняў.

Святочных дзён у календары даволі многа, аднак падчас сустрэчы ўсе прысутныя пераканаліся, што, каб простысы дзень стаў асаблівым, дастаткова толькі шчыра пасміхнуцца. Да таго ж, калі разабрацца ў тым, што сабой па сутнасці ўяўляе свята, то, перш за ўсё, гэта, калі ў вас добры настрой, калі вашы родныя і блізкія шчаслівыя, здаровыя і дораць свету шчырыя ўсмешкі. Менавіта таму, каб задаць самы што ні на ёсць святочны настрой, перад гледачамі і выступілі госці з Даўгапольскага клуба — прыгажуні народнага ансамбля песні «Суседзі». Нягледзячы на тое, што прысутных сабралася не так шмат, яны былі вельмі актыўнай і ўдзячнай аўдыторыяй: шчыра падтрымлівалі радкі, якія ўжо паспелі стаць добрай класікай кожнага свята, а нехта нават і танчыў.

У самых лепшых традыцыях пасля таго, як публіка зарадзілася пазітывам і кантакт быў наладжаны, прыйшоў час даць ёй прастору для разважанняў. Вядучая трапна заўважыла, што, будучы новыя рэаліі, так ці інакш мы зноў і зноў вяртаемся да нашых вытокаў, звяртаемся да святыняў, натхняемся славутым мінулым нашага народа, ганарымся гісторыка-культурнай спадчынай нашага краю. З 2008 г., дзесьці ў першыя дні чэрвеня, у раёне праводзіцца свята народнай творчасці, беларускай паэзіі і фальклору «Гарадоцкі Парнас», прысвечанае знакамітаму паэту-земляку Канстанціну Васільевічу Вераніцыну, аўтару паэмы «Тарас на Парнасе». І менавіта ў гэтым годзе Гарадочына святкуе аж 165 год са дня напісання гэтай па-сапраўднаму неўміручай паэмы, якая трывала ўвайшла ў культурную скарбніцу беларускага народа і стала візітнай карткай краіны і нашага раёна ў прыватнасці.

…. Менавіта Вераніцын быў першым сярод беларускіх пісьменнікаў, хто зрабіў простага селяніна галоўным героем. Прытым, нягледзячы на паходжанне героя, тэкст не стаў прыземленым, наадварот, яго сэнсавая насычанасць нават сёння не можа быць да канца вытлумачанай. Вельмі часта, відавочны, або так званы паверхневы, сэнс у творы пераплятаецца з падтэкставым, і разам яны ствараюць настолькі яркую і багатую карціну, што знаўцы літаратуры нават да сённяшняга дня нястомна іх вывучаюць! Вось ён — талент Вераніцына! Мастакі, кампазітары і тэатральныя дзеячы неаднаразова звярталіся да паэмы, якая перакладзена на восем моў свету, яны натхняліся гэтымі неўміручымі радкамі. ..

Каб больш дэталёва расказаць гасцям мерапрыемства гісторыю жыцця знакамітага аўтара і яго не меней знакамітага твора, супрацоўнікі Гарадоцкага раённага краязнаўчага музея падрыхтавалі тэматычную выставу, дзе былі прадстаўлены не толькі копіі выданняў паэмы розных гадоў, якія былі перададзеныя нашаму музею Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва, але і матэрыялы даследванняў і «Вераніцынскіх чытанняў» розных гадоў.

…Тэматыцы ўшанавання асобы аўтара і яго неўміручай паэмы былі прысвечаны таксама тэматычныя выставы «Тарас» і «Ці знаў хто з вас, браткі, Тараса?», фотазона «Разам з Тарасам». Самыя праўдзівыя і аптымістычныя «прагнозы» ўсім шчыра прапаноўваў куфар прадказанняў, а добрыя жартачкі гледачам дарыла «Скарбонка гумару ад Тараса». Арт-лакацыя «Упрыгож сябе яркімі малюнкамі» адразу прыцягнула ўвагу дзяцей. Займальны майстар-клас па набойцы, які падрыхтавалі спецыялісты Гарадоцкага філіяла «Дом рамёстваў і фальклору» Цэнтра традыцыйнай культуры, таксама не застаўся па-за ўвагай і сабраў вакол сябе ўсіх зацікаўленых. Акрамя таго, на памяць аб сустрэчы госці маглі набыць сувеніры.

Вельмі слушна, што нават праз дзясяткі год мы памятаем выдатных людзей, якія прынеслі славу нашай Радзіме. Мы па праве ганарымся тым, што на гарадоцкай зямлі ўспыхнуў яркі і самабытны талент Канстанціна Вераніцына. Каб яшчэ глыбей зазірнуць у нашу культурную гісторыю і нагадаць усім, што спадчынная творчасць жывое і будзе жыць, перад гледачамі выступілі Уладзімір Шакуцёў і Аляксандр Шандаеўскі.

Насамрэч, музыка і песні роднага краю — гэтыя матывы і знаёмыя з дзяцінства радкі мы ніколі ні з чым не зблытаем... У іх столькі глыбокай мудрасці і высокай паэзіі, светлай душы і жыццёвай сілы. І Таццяна Раева з дапамогай свайго мілагучнага голасу ў чарговы раз гэта даказала. Добры настрой і весялосць усім прысутным увесь час дапамагалі падтрымліваць нашы таленавітыя артысты: звонкагалосая Алена Пагіба, харызматычныя У. Шакуцёў, А. Шандаеўскі і інш.

Не забыліся арганізатары і на самую непаседлівую частку аўдыторыі — нашых дзетак. Так, акрамя таго, што для іх быў арганізаваны продаж ласункаў і друкаванай прадукцыі «Размалёўкі», усталяваны батут, добры настрой і мора пазітыўных эмоцый ім падарылі таксама «прафесійныя сяброўкі» Крутышка і Мілашка. Разам з дзецьмі яны спявалі, танчылі з рознакаляровымі пампушкамі, гулялі і нават чыталі рэп. Мяркуючы па светлых ад шчырых усмешак тварах дзяцей, заказчык застаўся вельмі задаволены, як кажуць.

Жыццё заўжды змяняецца, і гэтага не перайначыш. Аднак, калі ўмець правільна прыладзіцца пад гэтыя змены і не губляць добры настрой, шчырасць і быць адкрытым свету, то ўсё навокал абавязкова заззяе ўсімі колерамі вясёлкі і нават яшчэ ярчэй! Не верыце? Запытайце тых, хто завітаў у мінулую пятніцу ў гарадскі парк, яны абавязкова пагадзяцца з гэтымі словамі.

*(скарочана)*

**Вікторыя ПАЎЛАВА**
**"Гарадоцкі веснік"**

АДПАЧЫНАК

# "АРЫЁН" ЧАКАЕ ДЗЯЦЕЙ

**У Гарадоцкім раёне звыш 300 дзяцей адпачнуць гэтым летам у дзіцячым аздараўленчым лагеры «Арыён».**

Аздараўленчы лагер «Арыён» знаходзіцца ўдалечыні ад ажыўленых трас ў маляўнічым сасновым бары на краі вёскі Кабішча. Акрамя цішыні, чыстага паветра і камфортных бытавых умоў, дзяцей і іх бацькоў у «Арыёне» прыцягвае тое, што тут ёсць тыя якія ўмеюць і тыя, хто любіць працаваць з дзецьмі — выхавальнікі і важатыя, добрая спартыўная база, у тым ліку верaўчаны гарадок, а таксама практыкуюць як у мінулыя сезоны выезды на скаладром і ў басейн у Гарадку.

Пуцёўкі набываюцца па ўсёй вобласці. У бягучым годзе ўжо ёсць жадаючыя з Аршанскага, Браслаўскага і Мёрскага раёнаў, Віцебска.

— Лагер адкрываецца 16 чэрвеня. На днях спецыялісты розных ведамстваў правядуць яго прыёмку. Так што ў выпадку якіх-небудзь прэтэнзій з іх боку, у нас будзе час выправіць недахопы. Аднак асаблівых праблем паўстаць не павінна. Мы загадзя паклапаціліся аб добраўпарадкаванні тэрыторыі і жылога корпуса, аснашчэнні сталовай і іншых памяшканняў неабходнай тэхнікай, падключылі абсталяванне і аўтаматыку, якія адказваюць за бяспеку. Плануем арганізаваць тры змены, — сказала намеснік дырэктара раённага цэнтра дзяцей і моладзі Марыя Дарафеева. — Адметная рыса цяперашняга аздараўленчага сезона — складаная эпідэміялагічная сітуацыя. Таму, па меншай меры на першай змене, будуць забароненыя выезд рабят і работнікаў за межы лагера, бацькоўскія дні. Закуплены неабходныя аб'ёмы сродкаў дэзінфекцыі, прадугледжаны ўзмоцненая ўборка памяшканняў і масачных-перчаточный рэжым для абслуговага персаналу.

«Арыён» не адзінае месца на Гарадоччыне, дзе школьнікі могуць з карысцю правесці канікулы. Ужо пачалі працу сем дзённых прышкольных лагераў, дзе адпачываюць звыш 140 дзяцей. Яшчэ сто рабят неўзабаве аб'яднаюцца ў брыгады лагераў працы і адпачынку пры ўстановах адукацыі, дзе змогуць не толькі набрацца сіл, але і зарабіць на кішэнныя расходы, займаючыся, да прыкладу, пашывам пасцельнай бялізны, бягучым рамонтам будынкаў або рэстаўрацыяй мэблі. Акрамя таго, у ліпені адкрыецца дзённы лагер у цэнтры дзяцей і моладзі.

**Эдуард Каралевіч**
**«Витебские вести»**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# САМАІЗАЛЯЦЫЯ Ў ГЕАГРАФІЧНЫМ ЦЭНТРЫ ЕЎРОПЫ

**Вясна 2020 года папоўніла наш слоўнікавы запас словам «самаізаляцыя», пад якім разумеецца сукупнасць абмежавальных мераў, што ўводзяцца ўрадам для барацьбы з распаўсюджваннем небяспечных захворванняў.**




Слова гэта не новае, але ў гутарковай мове сустракалася раней нячаста. Патрэбы ў ім не было. У сучасных жа пікейных камізэлек, схільных параважаць пра вялікую палітыку, ва ўжытку было слова «ізаляцыянізм».

Са школьных гадоў у памяці застаўся фразеалагізм «адгарадзіцца кітайскай сцяной». Пабудавана тая сцяна была, калі хто забыў, з мэтай абароны ад качэўнікаў, але зрабіла свой унёсак у тэхналагічнае адставанне калісьці адной з самых развітых краін свету.

Сучасны прыклад самаізаляцыі — Паўночная Карэя. Яе бацька-заснавальнік Кім Ір Сен вынайшаў уласную ідэалогію чучхэ, у цэнтры якой — «чалавек і рэвалюцыйныя ідэі, накіраваныя на ажыццяўленне самастойнасці народных масаў».

Не ведаю, як там у народных паўночнакарэйскіх масаў з самастойнасцю, але з забеспячэннем элементарным шырспажывам не склалася. Мяркую з чужых слоў, бо ўбачыць гэта шчасце на ўласныя вочы не давялося.

**Качэўнікі перамагаюць аселых**

Сёння знойдзецца няшмат ахвочых ісці шляхам, які завяшчаў Кім Ір Сен, тым больш у Беларусі. Эканоміка рэспублікі-партызанкі экспартна арыентаваная, што пацвярджаецца доляй экспарту ў ВУП (70,46% па выніках 2018 года). У ЗША, між іншым, гэты паказчык за пазамінулы год склаў 12,22%. Ведай нашых!

Аднак радавацца тут асабліва няма чаму. Вялікай эканоміцы працсей быць самадастатковай. Таму ўсе размовы на тэму імпартазамяшчэння — гэта размовы на карысць бедных. Дасягненне сур'ёзных поспехаў на гэтым напрамку магчыма толькі за кошт увядзення дзяржаўнай манаполіі на знешні гандаль і выбудоўвання «жалезнай заслоны» па ўсім знешнім перыметры.

Падабаецца гэта камусьці ці не, аднак глабалізацыя даўно стала фактам. Яна адбываецца стыхійна, самаадвольна і бязладна. Не мае сэнсу шукаць людзей, якія сядзяць за пультамі кіравання глабалізацыяй, займаюцца планаваннем і прымаюць на сябе адказнасць за яе канчатковыя вынікі. Аматарам канспіралогіі тут няма чым пажывіцца.

…Як тут ні прыгадаць ярлык «донара еўрапейскай стабільнасці», што так старанна налепліваецца прапагандай на рэспубліку-партызанку. Аднак да моцнай дзяржавы, чыя сіла палягае ў архаічнай уладнай вертыкалі, ён прыляпляцца не жадае. Таму варта толькі выстраіцца чэргам у некалькі сотняў метраў з ахвочых паставіць подпісы за не ўхваленых зверху кандыдатаў, як тут жа пачынаюцца крыкі: «Ратуйце! Майданутыя разгойдваюць лодку! Недапушчальна!»

Сілу беларускай дзяржаўнасці яе архітэктар бачыць у здольнасці падтрымліваць стабільнасць — гэта значыць, нязменнасць. У гэтай сіле ў наша дынамічнае стагоддзе і палягае яе (дзяржаўнасці) галоўная слабасць. Качэўнікі-рэваншысты насядаюць з усіх бакоў.

Узор поспеху качэўнікаў над аселымі сялянамі мы сёння назіраем на прыкладзе «Газпрама», нацыянальнага здабытку «нашай Расіі». Колькі сотняў мільярдаў долараў гэты газавы гігант убухаў за апошнія гады ў будаўніцтва газаправодаў! Аднак заяўленая мэта стаць манапалістам дасягнутая не была. Танкеры са звадкаваным газам перамаглі закапаныя ў зямлю і марское дно трубы. Сёння кошт за 1 тысячу кубаметраў газу на спотавых рынках Еўропы апускаецца да 40 долараў, у той час як Беларусь атрымлівае яго па трубе за 127 «зялёных». Танней было б пампаваць газ з Польшчы. Але сваю частку трубы мы прадалі. Так што бачыць вока, ды зуб не мае.

***Жаночы лісліві голас***

На сайце Міністэрства эканомікі чытаю: «Імпартазамяшчэнне — дзяржаўная палітыка, накіраваная на рацыяналізацыю імпарту тавараў і паслуг з дапамогай стымулявання айчынных вытворцаў аналагічных прадуктаў, стварэнне на тэрыторыі краіны новых прадпрыемстваў, у тым ліку і з удзелам замежнага капіталу, для арганізацыі выпуску прадукцыі, якая раней імпартавалася».

…У нас поўна ўмельцаў, здольных зрабіць аналагічнае з палітычнымі інстытутамі ды культурнымі каштоўнасцямі.

Вытворчасць аналагаў у гуманітарнай сферы ў Беларусі пастаўленая на паток. Адзін з такіх у чарговай сваёй версіі нараджаецца на нашых вачах. Імя яму — «выбары».

Каб не вынаходзіць ровар, прапаную звярнуцца па дапамогу да Вікіпедыі: «Выбары — гэта працэдура абрання каго-небудзь шляхам адкрытага або таемнага галасавання. Выбары — адна з найбольш распаўсюджаных формаў удзелу грамадзян у грамадска-палітычным жыцці дзяржавы, краіны, рэгіёну (рэгіянальныя выбары), арганізацыі і гэтак далей...»

… «Магчыма. Усё магчыма», — чую я жаночы лісліві голас, што льецца аднекуль зверху. А каб мяне не ахапілі сумневы, той жа голас тлумачыць: «Не бойся пандэміі. Яна наклала свой адбітак. І гэта мінус. Але ўсе выбаршчыкі будуць знаходзіцца ў краіне. І гэта плюс. Нават калі яны будуць адпачываць, то мы дамо ўсе магчымасці, каб яны прагаласавалі па месцы адпачынку. Студэнтам мы дамо магчымасць прагаласаваць па месцы іх пастаяннага пражывання, там, дзе яны будуць знаходзіцца ў бацькоў. Людзям, якія будуць на лецішчах, мы таксама дамо магчымасць прагаласаваць у сельсаветах, сельскіх участковых выбарчых камісіях»…

**Выжываюць толькі наймацнейшыя**

Але працягнем падарожжа па азбукавых паліталагічных ісцінах, і дапаможа нам у гэтым расійскі правазнаўца Андрэй Медушэўскі: «У сучаснай глабальнай канкурэнцыі выжывуць толькі наймацнейшыя краіны. А наймацнейшыя — гэта тыя, якія маюць развітую прававую сістэму, грамадзянскую супольнасць, дзе інстытуты працуюць адэкватна і дзе грамадзяне маюць развітую правасвядомасць. А калі гэтага няма, то такая сістэма асуджаная на паразу».

Нічога з пералічанага вышэй у беларускага варыянту моцнай дзяржавы няма, дый не прадбачыцца. Таму не на пустым месцы нараджаюцца крыкі: «Ратуйце! Майданутыя разгойдваюць лодку! Недапушчальна!» Немагчыма канкураваць на знешніх рынках, калі ўся энергія дзяржавы накіраваная на знішчэнне любых відаў канкурэнцыі ўнутры краіны.

Па свежы прыклад хадзіць далёка не давядзецца. 12 чэрвеня АП наведаў Віцебскую вобласць. Размова з вертыкальшчыкамі зайшла пра кансалідаваны экспарт мясцовых відаў паліва (пелет). Галоўная ўмова поспеху, на думку АП, — адсутнасць канкурэнцыі вытворцаў адзін з адным на еўрапейскім рынку: «Пачнем канкураваць адзін з адным, саб'ем цану, у мінус пойдзем па рэнтабельнасці». Выснова не прымусіла сябе доўга чакаць: «Вазьміце ў адны рукі рэалізацыю прадукцыі».

У адны рукі ў 1994 годзе была ўзятая Беларусь. Яе ўсё яшчэ можна пабачыць на палітычнай карце. Дзякуй рэжыму самаізаляцыі. Дасягаецца ён не за кошт «жалезнай заслоны». Дый пра якую заслону можа ісці гаворка, калі істотную частку бюджэтных даходаў забяспечвае транзіт еўрапейскіх тавараў у Расію і расійскай сыравіны ў Еўропу.

Нашу самаізаляцыю забяспечвае «асаблівы шлях». Беларускі палітычны клас з кожным годам культурна ўсё больш не стасуецца са сваімі еўрапейскімі калегамі. Каранавірус гэта лішні раз пацвердзіў. Таму дарэмна чакаюць адкрыцця мяжы з Літвой уладальнікі шэнгенскіх віз. Зрэшты, гэта прыватнасць. Аднак жыццё з такіх прыватнасцяў і складаецца.

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

САМАЎПРАЎСТВА

# «ГЭТА НАГАДВАЕ ВЫБАРЫ Ў АФРЫКАНСКІХ ДЫКТАТУРАХ…»

**За два месяцы да прэзідэнцкіх выбараў у Бела-русі больш за сто ключавых палітычных фігур, папулярных блогераў і людзей з атачэння прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта арыштавана па крымінальных справах або асуджана па адміністрацыйных.**

«Па стане на 16 чэрвеня, па звестках Праваабарончага цэнтра „Вясна", у перыяд з 6 мая ў Беларусі па адміністрацыйных артыкулах, якія выкарыстоўваюцца ў мэтах палітычнага пераследу за выказванне меркавання, 97 чалавек былі прыцягнуты судамі да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе арышту (у агульнай суме былі прызначаныя 1246 сутак арышту). Па такіх жа артыкулах 105 чалавек атрымалі штрафы агульным памерам каля 90.000 рублёў.

Суды працягваюць выносіць у дачыненні да грамадзян, якія ўдзельнічаюць у мірных сходах, адміністрацыйныя арышты на тэрмін да 15 сутак. У дачыненні да некаторых актывістаў вынесена некалькі судовых пастаноў аб арышце за ўдзел у розных мерапрыемствах. Такім чынам, яны будуць знаходзіцца пад арыштам больш за 15 сутак (па стане на 16 чэрвеня палітыку Паўлу Севярынцу суды прызначылі 75 сутак, палітыку Мікалаю Статкевічу — 30 сутак, блогеру You-Tube канала MozgON Уладзіміру Цыгановічу — 30 сутак і г. д.).

Умовы адбывання пакарання ў мінскім Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў (ЦІП), дзе знаходзіцца большасць арыштаваных, можна кваліфікаваць як жорсткае, бесчалавечнае і прыніжаючае годнасць абыходжанне.

Праваабаронцы інфармуюць спецдакладчыкаў пра факты пагроз вылучэнцы ў кандыдаты Святлане Ціханоўскай, пераследу сяброў яе ініцыятыўнай групы і зборшчыкаў подпісаў, а таксама пра ціск на вылучэнца ў кандыдаты Віктара Бабарыку і сяброў ініцыятыўнай групы, пра ператрус у яговых калег і сяброў і затрыманне 15-ці чалавек. Праваабаронцы ацэньваюць гэтыя дзеянні ўладаў як незаконны, палітычна матываваны ціск на прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта, які выкарыстоўваецца з мэтай прымусіць іх адмовіцца ад свайго рашэння ўдзельнічаць у выбарах», — пішуць праваабаронцы.

РПГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» і Праваабарончы цэнтр «Вясна» звярнуліся да Вярхоўнага камісара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па правах чалавека і шэрагу спецыяльных тэматычных дакладчыкаў ААН з просьбай прыняць усе адпаведныя меры для аказання садзейнічання ў паляпшэнні бягучай сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, а таксама ў праведзенні сумленных і справядлівых выбараў.

Нагадаем, што кіраўнік штаба патэнцыйнага кандыдата ў прэзідэнты Сяргей Ціханоўскі быў арыштаваны яшчэ да абвяшчэння выбараў, каб не даць яму магчымасці балатавацца самому. А калі ў прэзідэнты замест яго пайшла яговая жонка, то кагадзе выпушчаны Ціханоўскі быў ізноў арыштаваны, ужо па крымінальнай справе. За кратамі знаходзяцца як мінімум 11 паплечнікаў Ціханоўскага і

***(працяг на стар. 4)***

САМАЎПРАЎСТВА

*(пачатак на стар. №3)*

сяброў ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай.

Не менш за 18 сяброў і паплечнікаў іншага прэтэндэнта, Віктара Бабарыкі, былі затрыманыя пасля 11 чэрвеня па крымінальных абвінавачваннях. Гэта адбылося пасля таго, як стала ясна, што менавіта Бабарыка сабраў рэкордную ініцыятыўную групу і набірае рэкордную колькасць подпісаў у сваю падтрымку.

Па колькасці затрыманых прыхільнікаў, здаецца, можна вызначаць ступень «небяспечнасці» таго ці іншага праціўніка «гаранта стабільнасці і бяспекі».

Акрамя затрыманняў, адбываюцца і іншыя акцыі запалохвання. Так, пасля выпуску крамай Symbal.by маек з надпісаў «Псіхо3%» у краму прыйшоў АБЭП.

У 2010 годзе Беларусь трапіла ў кнігу рэкордаў Гінэса як краіна, дзе рэкордную колькасць кандыдатаў у прэзідэнты затрымалі ў ноч пасля выбараў.

Падчас кампаніі 2006 года затрыманні насілі масавы характар, але яны адбываліся непасрэдна перад днём галасавання, а не за два-тры месяцы да яго.

У 2020 годзе выбары страчваюць нават першасныя прыкметы «выбараў». Дайшло да таго, што кіраўніца Цэнтрвыбаркама абвінаваціла праціўніка Лукашэнкі ў тым, што яго кампанія была скіраваная на змену ўлады. Масавыя арышты,ператрусы і распальванне варожасці — апошняе адбываецца з абодвух бакоў — ператвараюць «выбарчую кампанію» ў вакханалію. Гэта нагадвае выбары ў афрыканскіх дыктатурах, а не ў Еўропе.

Сам факт палітычных арыштаў робіць свабодныя і справядлівыя выбары немагчымымі. Фактычна, сваімі паводзінамі ўлады Беларусі распісаліся ў няздольнасці перамагчы на выбарах — нават не свабодных, але хаця б з элементамі канкурэнтнасці.

Варта адзначыць, што рэпрэсіі і нечуванае распальванне варожасці з боку дзяржпрапаганды таксама выклікалі беспрэцэдэнтнае яднанне апазіцыйна настроеных слаёў грамадства. Спробы лукашэнкаўскага прапагандысцкага апарату прэзентаваць канкурэнтаў як агентаў замежнага ўплыву не мелі поспеху. Ужо за два месяцы да выбараў краіна аказалася выразна палярызаваная.

**Сяргей Гезгала**
**"Наша Ніва"**

РАСІЯ

# ЧТО НЕ СДЕЛАЛ РОССИЙСКИЙ ШТЫК, СДЕЛАЕТ РОССИЙСКИЙ ПАСПОРТ

**С 17 июня вступили в законную силу поправки в закон о гражданстве Российской Федерации. Они упрощают порядок получения российского гражданства для граждан Беларуси. И это может оказаться соблазном для части белорусского населения. А Кремль в перспективе способен получить зацепку для вмешательства во внутренние дела Беларуси.**

В частности, теперь белорусам для получения российского гражданства не нужно проходить собеседование на знание русского языка. Кроме того, с конца июля в силу вступят поправки, которые отменяют и необходимость проживать на территории РФ пять лет, чтобы получить гражданство этой страны, для граждан Беларуси, Казахстана, Молдовы и Украины.

Фактически теперь для того, чтобы получить российский паспорт, гражданам этих стран достаточно просто подать заявление.

**Москва расширяет действие своей мягкой силы**

Подобные решения со стороны России расширяют действие ее мягкой силы на территорию сопредельных государств. Опыт такой экспансии у РФ уже есть — подобные шаги с «продвижением» российских паспортов были, в частности, опробованы ранее в Абхазии и Южной Осетии. Задолго до событий 2014 года официальные лица Украины заявляли о том, что генеральное консульство РФ в Симферополе выдавало российские паспорта жителям Крыма.

Российский паспорт может быть привлекательным для значительной части населения Беларуси — особенно для тех, кто регулярно выезжает на заработки в Россию. По разным оценкам, временная трудовая миграция из Беларуси в Россию может достигать ста тысяч человек в год.

Кроме того, на предложение получить российское гражданство в упрощенном порядке могут положительно отреагировать люди, имеющие постоянные контакты с родственниками в России, родители абитуриентов, ориентированных на российские университеты, или те жители нашей страны, которые выступают за объединение двух стран в одно государство (таких, согласно различным исследованиям, может насчитываться до 15%).

**Как отреагирует Минск?**

При этом еще в 2002 году была отменена нормабелорусскогозаконаогражданстве, которая предполагала автоматическую утрату гражданства Республики Беларусь в связи с приобретением гражданства другого государства. Поэтому желающие получить российское гражданство не теряют никаких прав в Беларуси.

Это создает куда более опасную ситуацию, чем с той же картой поляка. При этом последняя нервирует белорусское государство, тогда как на упрощение порядка получения российского гражданства пока нет никакой внятной реакции официального Минска.

Если на территории Беларуси развернется широкая пропаганда возможности получить российское гражданство, то это будет очевидным недружественным шагом со стороны России. Наша восточная соседка может также попытаться увеличить число консульских и иных учреждений на территории нашей страны — именно в них можно будет получить российский паспорт в упрощенном порядке.

Беларуси следует официально заявить, что такие действия будут восприниматься однозначно негативно.

В политическом смысле широкое принятие белорусами российского гражданства де-факто будет формировать в Беларуси пятую колонну и давать России (с ее точки зрения) легитимное право требовать соблюдения прав ее граждан на суверенной территории Беларуси.

Нет сомнений, что в русле своей неоимперской экспансии Кремль рано или поздно воспользуется этой возможностью.

**Андрей Егоров, политолог**
**БЕЛАПАН**

ПРАПАНОВА

# ЧТО ДЕЛАТЬ В ДЕНЬ ВЫБОРОВ?

**Лукашенко, объявившему себя победителем, нужна демонстрация всенародной поддержки в 2/3 голосов избирателей, чтобы заткнуть рот всем его критикам в стране и за рубежом. Однако я верю: мы сможем сокрушить навязанную нам систему выборов!**

Лично я буду голосовать против того, чтобы Лукашенко получил мандат на управление страной еще на пять лет. Я призываю всех, кому дорога Свобода, кто не потерял честь и чувство собственного достоинства, имеет гражданское мужество, последовать моему примеру.

Я обязательно приду на избирательный участок, желательно в основной день голосования — 9 августа. Получу бюллетень, удостоверюсь, что на обратной его стороне имеются подписи не менее двух членов избирательной комиссии, затем зайду в кабину для тайного голосования, сложу бюллетень пополам с таким расчётом, чтобы на одной его половине были подписи членов избирательной комиссии. На этой половине бюллетеня укажу номер своего избирательного участка и оторву её, а затем положу в карман. Вторую половину сложу и опущу в урну для голосования (ст.ст. 44, 72 Избирательного кодекса).

При подсчете результатов голосования такие половинки бюллетеней, обнаруженные в урне, должны быть учтены и признаны участковой комиссией недействительными, а данные об их количестве — внесены в итоговый протокол.

Замечу: при принятии решения о признании бюллетеня недействительным участковая избирательная комиссия обязательно указывает на его обратной стороне причины недействительности (бюллетень поврежден, испорчен и т.п.). Эта запись заверяется подписями не менее двух лиц, входящих в состав участковой комиссии. Недействительные бюллетени упаковываются отдельно и хранятся до истечения срока, установленного законом (не менее шести месяцев). Данный порядок прямо предусмотрен ст.ст. 55, 78, 79 Избирательного кодекса.

Как видим, ничего предосудительного в моих действиях нет. Они не противоречат нормам избирательного законодательства, гарантирующим свободу волеизъявления.

Если так же поступят и другие противники Лукашенко, те, кто разуверился во всём, то в ящиках для голосования будут обнаружены сотни тысяч таких половинок, а у граждан на руках окажутся другие половинки бюллетеней с подписями двух членов участковой комиссии и ее номером.

При таком положении вещей у организаторов выборов не будет реальной возможности манипулировать нашими голосами. Для всех присутствующих при подсчете голосов наблюдателей, представителей СМИ, представителей кандидатов и иных лиц, а также членов участковых комиссий будет очевидным наличие этих половинок, необходимость признать их недействительными, посчитать и отразить их количество в итоговом протоколе по результатам голосования.

Другой вариант действий комиссии в этих обстоятельствах, если на них пойдет кто-либо, — прямая фальсификация: подмена бюллетеней либо неправильный их подсчет и отражение в итоговом протоколе. Но эти действия в уголовном законодательстве оцениваются как подлог, заведомо неправильный подсчет голосов или иное искажение результатов голосования и влекут ответственность по статье 192 УК…

**Что дает такой способ проявления волеизъявления?**

Во-первых, он является законным. Во-вторых, если так поступят многие, то в случае повсеместных фальсификаций у избирателей на руках будут неопровержимые доказательства преступной деятельности организаторов выборов, а у проигравших кандидатов в президенты — возможность в соответствии со статьей 79 Избирательного кодекса требовать от Центральной комиссии признания выборов недействительными.

В-третьих, для кого-то это послужит серьезным предупреждением не совершать преступные действия. В-четвертых, если этот способ будет использован многими (в массовом порядке), он опрокинет всю систему нечестных, непрозрачных выборов, заставит власти пересмотреть подходы к проведению голосования и подсчета голосов избирателей.

В-пятых, и, пожалуй, это основное, если таким образом поступят многие, у кандидата, получившего наибольшее число голосов наряду с Лукашенко, (социологические выкладки показывают, что при таком раскладе он не сможет реально набрать 50% плюс один голос), появится шанс выйти во второй тур голосования.

Реализация данного проекта может послужить мощной побудительной мотивацией для тысяч обманутых избирателей, которые, если власти пойдут на прямую фальсификацию результатов голосования, смогут свои половинки бюллетеней принести на объявленное место сбора для проведения протестных акций.

Другие, кто по каким-то причинам не сможет или не захочет участвовать в уличных акциях, смогут найти способ передать их организаторам — технических возможностей сейчас много. Всё в наших руках!

Как наиболее эффективная данная система сможет себя проявить тогда, когда избиратели придут на участки в основной день голосования, и там будут находиться национальные, возможно, зарубежные наблюдатели, представители СМИ, доверенные лица кандидатов и другие.

Но и при досрочном голосовании недовольные тем, что их загоняют принудительно на участки для голосования, могут таким же способом показать «фигу в кармане», то есть поступить таким же образом: оторвать половинку бюллетеня и бросить её в урну, а вторую положить себе в карман и затем найти способ передать ее тем, кто организует систему контроля и обжалования результатов голосования.

Расскажите о данном способе участия в голосовании своим близким, друзьям, по месту жительства, подъезду, коллегам по работе, распространите эту информацию в интернете.

…Хочу верить, что альтернативные кандидаты в президенты, члены их штабов, если они искренне патриоты и хотят реальных перемен в стране, глубоко вникнут в предлагаемую идею, отбросят свои амбициозные устремления прорваться во власть, предлагая избирателям голосовать за них, и предпримут всё от них зависящее, чтобы предложенная мною идея была дополнена и эффективно реализована.

(скарочана)

**Гарри ПОГОНЯЙЛО**
**БЕЛАПАН**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: leo592202@gmail.com Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 28.06.2020 у 17.30** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.